Віншуем з Калядамі і Новым 2015 годам!


**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 52 (768) 25 снежня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**



vglybokaye@tut.by


# Вольнае Глыбокае

*Фота Ул. Скрабатуна.*





**Падача абвестак па тэлефоне № 166**

## Віцебскі раён

# Па надуманых прычынах

■ Станіслаў Раманчук.

**Толькі ў цывілізаваных дзяржавах, у тым жа Еўрасаюзе практычна не існуе граніц паміж імі для свабоднага руху людзей, грузаў і капіталаў.**

У нас жа менавіта перад 15-й гадавінай стварэння так званай саюзнай дзяржавы РФ і Беларусі здарыўся чарговы канфлікт паміж саюзнікамі. Перад фактам забароны ўвозу прадукцыі ў Расію паставілі і два буйныя прадпрыемствы абласнога цэнтра з канцэрна "Мясамалочныя прадукты". Хоць і не было асаблівых падстаў для такога кроку, але чыноўнікі Рассельгаснагляду такія абмежаванні ўвялі і для Віцебскай бройлернай фабрыкі. Яе калектыў сёлета перажыў маральны стрэс пасля гучнага арышту свайго паважанага дырэктаражанчыны, кандыдата навук і яшчэ сенатара верхняй палаты парламента. На шчасце, гэта забарона асабліва не адбілася на рытмічнай дзейнасці фабрыкі, бо расійскім спажыўцам яна адгружала толькі пятую частку вырабаў з мяса птушкі. Праўда, на ўнутраным рынку стала гандляваць яшчэ складаней з-за перасычанасці падобнымі прадуктамі іншых вытворцаў. Неўзабаве і расійскія ветэрынары пасля праверкі прадпрыемства і аналізу проб свае прэтэнзіі адмянілі. Больш адчувальнай аказалася забарона на ўвоз гатовай прадукцыі для Віцебскага мясакамбіната. Ён расіянам рэалізоўваў амаль палову сваіх мясапрадуктаў, праводзіў мадэрнізацыю вытворчасці, меў лабараторыю і акрэдытацыю па расійскіх стандартах. Нават калі сваю дурную забарону рускія адменяць, гандляваць з імі каўбасамі і вяндлінай стала нявыгадна з-за моцнага абвалу іх рубля.

## Расонскі раён

# У Расію пад канвоем

■ Чэслаў Якубовіч.

**У адказ на дыскрымінацыйныя дзеянні расійскіх ветэрынарных служб па загадзе Крамля беларусы таксама пачалі ўзмоцнены маніторынг за рухам грузавікоў на расійска-беларускай граніцы, нягледзячы на наяўнасць ужо некалькі гадоў Мытнага саюза.**

Як аказалася, з расійскіх прастораў якое толькі барахло і сумніўныя па якасці тавары да нас не трапляюць. Нават праз невялікі лясны Расонскі раён патокам ідуць грузы без неабходных дакументаў аб іх адпаведнасці неабходным фітасанітарным і ветэрынарным нормам. Вось і паблізу вёскі Юхнавічы супрацоўнікі Віцебскай рэгіянальнай мытні спынілі днямі грузавы аўтамабіль. Гэта фура перавозіла 20 тон бананаў, аднак у ходзе кантролю спецыялісты выявілі, што этыкеткі на каробках і суправаджальныя дакументы на тавар не супадалі. Добра яшчэ, што па гэтым факце не склалі адміністрацыйны пратакол, бо інакш можна было б груз арыштаваць, а справу перадаць у суд. Пакуль расійскаму пастаўшчыку яшчэ пашчасціла, пад канвоем сумніўныя бананы паехалі назад у Расію. У гэтай мясцовасці таксама падобным чынам быў вернуты назад мікрааўтобус з цыгарэтамі і спіртам. Нашы суседзі апынуліся ў няпростай сітуацыі з недахопам прадуктаў харчавання, якую ж самі і стварылі сабе. Калі ў Беларусі існуе парадак і кантроль у гэтай сферы, то масавыя парушэнні заканадаўства, напэўна, ужо ў крыві расіян. У зоне толькі дзеяння Віцебскай мытні за некалькі дзён спынілі з боку Расіі 86 фур, якія перавозілі звыш тысячы тон ежы. У 15 з іх прадукты былі зусім без дакументаў і імі зоймецца суд.

## Пастаўскі раён

# Рост, які не радуе

■ Кастусь Александровіч

**Кожнае трэцяе прадпрыемства мяса і малакаперапрацоўчай прамысловасці Віцебшчыны нечакана трапіла пад уведзеную Расіяй забарону паставак тавараў.**

Пакуль гэтых праблем не мае абноўлены Пастаўскі малочны завод, які напрыканцы восені адзначыў сваё 75-годдзе. У калектыве ўзрадаваліся, калі Крэмль абмежаваў экспартныя пастаўкі малочнай прадукцыі з Еўропы. Завод нават перайшоў на працу ў кругласутачным рэжыме, калі заключыў выгадны для сябе кантракт аб дадатковых пастаўках сыравіны з суседняй Літвы. І калгасаў у літоўцаў даўно няма, але з аднаго Рокішскага раёна на прадпрыемства цяпер штодзень паступае да 90 тон сырадою вельмі высокай якасці. Па закупачных цэнах нават з улікам выплат мытных пошлін літоўская сыравіна крыху выйграе у беларускай. На завод жа пастаўляюць малако 15 гаспадарак свайго і яшчэ дзве з суседняга Браслаўскага раёна. З дапамогай літоўцаў пастаўчане па аб'ёмах перапрацоўкі малака на аднаго працуючага выйшлі ў лідары па вобласці. З канца лета рэзка павялічыліся адгрузкі пастаўскіх сыроў з новага сучаснага сырзавода ў глыб Расіі, куды рэалізуецца да 40 % гатовай прадукцыі. Да канца года экспартная выручка можа скласці 12 мільёнаў долараў. Аднак такі рост дасягаецца за кошт вялікіх аб'ёмаў паставак, а ў далейшым можа прыносіць страты, калі прадоўжыцца імклівая дэвальвацыя расійскай нацвалюты.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 25.12.14 | | | | Пятніца 26.12.14 | | | | Субота 27.12.14 | | | | Нядзеля 28.12.14 | | | | Пн.29.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +4 | 0 | -2 | -4 | -4 | -5 | -2 | -3 | -3 | -3 | -2 | -3 | -3 | -4 | -5 | -7 | -9 | -11 | -9 |
| Ціск | 727 | 733 | 738 | 742 | 746 | 749 | 751 | 751 | 750 | 747 | 747 | 747 | 747 | 747 | 748 | 749 | 750 | 751 | 750 |
| Вільготнасць | 87 | 82 | 69 | 77 | 66 | 64 | 67 | 74 | 81 | 92 | 94 | 95 | 96 | 97 | 94 | 88 | 88 | 87 | 87 |
| Вецер м/сек | 9 З | 6 С-З | 6 С-З | 7 С | 6 С | 1 С | 2 З | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 6 Ю-З | 4 З | 2 Ю-З | 1 Ю-З | 3 В | 7 С-В | 7 С-В | 6 С | 4 С-В | 4 С-В |

# Аб самым надзённым

## Наперадзе Беларусь чакаюць, напэўна, самыя складаныя і нават бедныя гады ў навейшай суверэннай гісторыі



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Вось толькі цяпер для беларусаў цяжкасцей і праблем для айчыннай эканомікі ў бліжэйшыя некалькі гадоў прыбавіцца, бо асноўны спажывец большасці нашых тавараў Расія па сваёй дурасці перажывае крызіс, які мы перажылі 4 гады назад пасля завяршэння апошніх прэзідэнцкіх выбараў.**

Напярэдадні зімовых самых галоўных і любімых сямейных святаў, здавалася б, настрой у беларусаў павінен быць адпаведны і прыўзняты. Як-ніяк, заканчваецца чарговы даволі нялёгкі для краіны 2014 год, людзі імкнуцца дастойна падрыхтавацца да сустрэчы Калядаў і да навагодніх застолляў. Аднак пакуль у многіх суайчыннікаў хапае трывог і паўсядзённых цяжкасцей. Нават кіраўнік дзяржавы занепакоіўся, каб цэны ў магазінах напрыканцы снежня не падскочылі і падтрымаў ініцыятыву стварэння ў беларускай сталіцы камунальнай гандлёвай сеткі.

Тым часам тых, хто па нейкіх прычынах лайдачыў, мала працаваў, сур'ёзна паўшчувалі і паставілі перад фактам. З 1 студзеня новага года ў Беларусі павялічваецца мінімальны стаж для налічэння сацыяльных пенсій з 10 да 15 гадоў. Таксама і кіраўніцтву краіны ў выбарны год, а таксама ўсім нам, прыйдзецца вельмі сур'ёзна эканоміць, зацягнуць паясы і жыць эканомна, па сродках. Такім чынам распрацаваны праект дзяржаўнага бюджэту-2015. Нягледзячы на гэта, дзяржава быццам узяла на сябе абавязацельствы выплочваць пры нараджэнні трэцяга і наступных дзяцей "мацярынскі капітал" у суме 10 тысяч долараў.

Аднак гэта сума аддаленай перспектывы па дасягненні дзіцём 18 гадоў і што будзе праз столькі часу? Многія скептычна глядзяць на гэта, тым больш, што саюзная Расія, усё болей відавочна для спецыялістаў, не разлічыла свае сілы, уступіла ў халодную вайну з Захадам і па-сутнасці ідзе на дно на фоне абвалу сусветных цэн на нафту. Яна болей, як падаецца, не збіраецца сур'ёзнымі крэдытамі падтрымліваць фінансава афіцыйны Мінск у няпросты для яго перыяд. Горш таго, каб, напэўна, правучыць "малодшага брата" па Мытным саюзе Крэмль напляваў на ўласныя цяжкасці і развязаў супраць нас "мясакаўбасную вайну", перакрыў рух транзітных грузаў на беларускай граніцы ( яшчэ нядаўна А. Лукашэнка заяўляў, што Беларусь вельмі прывабная краіна для транзіту).

Наша дзяржава з такімі "непрыстойнымі" паводзінамі не пагадзілася і ў выніку Беларусь аднавіла мытны кантроль на мяжы з РФ без афіцыйнага аб'яўлення аб такіх кроках. Адначасова рускія спецыялісты на працягу тыдня праводзілі праверкі нашых мяса і малакаперапрацоўчых прадпрыемстваў, каб пераканацца, што беларусы не выпускаюць прадукты харчавання дрэннай якасці. Хоць усе разумеюць, што за дзяннямі спадара Данкверта і яго каманды (злыя языкі раілі яму навогул не ехаць на перамовы ў Мінск, каб не паўтарыць сумны лёс арыштаванага Баумгартнера) стаіць найперш указанне з самага галоўнага маскоўскага кабінета.

Як падаецца, з цягам часу гэты канфлікт на роўным месцы неяк разрулiцца. Праўда, у нас таксама з'явіўся свой Генадзь Анішчанка, галоўны санітарны ўрач Беларусі і яго калегі ў абласцях і ў Мінску атрымалі правы забараняць увоз і расійскай прадукцыі, не адпавядаючай санітарным нормам. Не ў першы раз такое адбываецца паміж суседзямі, успомніце, як Крэмль у 2010 годзе жорстка прэсаваў нязменнага беларускага лідара, нават серыю тэлефільмаў пра хроснага бацьку запусціў у эфіры НТБ. Аднак перад самымі выбарамі кіраўнікі дзяржаў знайшлі агульную мову на нейкі час. Вось толькі цяпер для беларусаў цяжкасцей і праблем для айчыннай эканомікі ў бліжэйшыя некалькі гадоў прыбавіцца, бо асноўны спажывец большасці нашых тавараў Расія па сваёй дурасці перажывае крызіс, які мы перажылі 4 гады назад пасля завяршэння апошніх прэзідэнцкіх выбараў.

У нас сёлета таксама спажывецкія цэны за 11 месяцаў выраслі амаль на 15 %, да чаго мы ўжо прывыклі. Эканамічны абвал і крах рубля на расійскіх прасторах зараз вельмі негатыўна ўплываюць на становішча гігантаў беларускай эканомікі і іншых прадпрыемстваў-экспарцёраў у Расію. З іншага боку для беларусаў збіраюцца павысіць падаходны падатак да 13 %, а дадатковыя сродкі плануюць накіраваць на падтрымку шматдзетных сем'яў. Чыноўнікі абяцаюць адшукаць у дзяржбюджэце сродкі таксама на тое, каб кампенсаваць страты ад падзення цэн на нафту.

Па існуючай традыцыі частку такіх даходаў вырашылі знайсці проста, за кошт кішэняў суайчыннікаў. Штогадовы падатак для аўтамабілістаў павысяць яшчэ на 150-300 тысяч рублёў. І выплаціць яго будзе многім няпроста, калі перапоўнены склады з гатовай прадукцыяй нават у флагманаў індустрыі – "Гомсельмаша", МАЗа, МТЗ, БелАЗа, а людзей адпраўляюць у вымушаныя водпускі, пераходзяць на скарочаны рэжым працы і там магчымы масавыя скарачэнні. У буйных гарадах лягчэй знайсці новую працу, а вось куды людзям падацца ў глыбінцы? Такая цяпер абстаноўка склалася, што і наступаючы новы год не абяцае нам нічога добрага, трэба рыхтавацца маральна, што такім жа складаным стане і 2016, а потым можа знешніх праблем і выклікаў стане меней…

## Дзень за днём

**З 1 студзеня ў Беларусі павысяць мінімальны заробак да 2,1 мільёна рублёў. Дзяржбюджэт-2015 распрацавалі зыходзячы з цаны 83 долары за барэль нафты, верагодна спатрэбіцца яго карэкціроўка. З-за дэвальвацыі сваёй нацвалюты Расіі прыйшлося знізіць цану газу для Беларусі. Спецыялісты прагназуюць рост колькасці беспрацоўных з-за масавай міграцыі адтуль многіх беларусаў пасля падзення там заробкаў. Мытны камітэт РБ абверг паведамленні аб аднаўленні мытнага кантролю на граніцы з РФ. Далучацца да расійскіх санкцый супраць Захаду ў МЗС Беларусі нават не абмяркоўвалі.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Сенат ЗША аднагалосна прызнаў Украіну ваенным саюзнікам за межамі НАТА, краіна акажа дапамогу ўкраінцам сучаснай зброяй і боеприпасамі, будзе ціснуць на РФ.

**Бельгія.** Кіраўніцтва Еўрасаюза запатрабавала ад Расіі афіцыйна адмовіцца ад сумеснай рэалізацыі праекта газаправода "Паўднёвы паток", страты "Газапрама" па ім склалі ўжо 5 мільярдаў долараў.

**Германія.** З-за злачынных дзеянняў Расіі супраць Украіны, як заявіла канцлер А. Меркель, жорсткі курс у адносінах Масквы трэба ўзмацніць, патрэбна ўвесці новыя санкцыі.

**Расія.** Палітолаг Д. Арэшкін заявіў, што Пуцін пралічыўся і са сваім праектам "ДНР", ён ментальна неадэкватны, а Крым стаў чорнай дзіркай бюджэту, ВУП упаў там на 11 %.

**Украіна.** Глава ўрада Арсен Яцанюк паабяцаў, што за 4 гады з дапамогай ЕС краіна ажыццявіць праект "Еўрапейскі вал" і адгародзіцца сцяной ад агрэсіўнай Расіі.

**Аўстралія.** Урад краіны прапанаваў Украіне пастаўкі вугалю і ўрану падчас візіту яе прэзідэнта П. Парашэнкі, каб знізіць энергетычны ціск Крамля на ўкраінцаў.

**ЗША.** Рэжым Пуціна ўжо асуджаны на звяржэнне, як заявіў аналітык Forbes А. Тэмкін, але адхіліць ад улады гэты страшны цяжар для Расіі мірна рускім наўрад ці атрымаецца.

**Балгарыя.** Урад краіны знайшоў замену трубаправоду "Паўднёвы паток", паблізу Варны з'явіцца пры падтрымцы ЕС буйны газавы тэрмінал-сховішча звадкаванага газу.

**Расія.** У ходзе двух войн з Чачнёй краіна, як заявіў эксперт па дзяржавах СНД С. Міхееў, страціла 11,5 тысяч ваенных, цяпер ідуць труны з Данбаса, на яго ў РФ грошай няма.

**Літва.** Усе падраздзяленні літоўскай арміі прывялі ў павышаную баявую гатоўнасць пасля актывізацыі дэманстрацыйнай ваеннай актыўнасці войск Расіі паблізу граніцы.

**Расія.** У рэгіёнах РФ, як паведаміла "Независимая газета", рэзка на 40-74 % выраслі цэны на спажывецкія тавары, людзі ў паніцы, пайшлі масавыя скарачэнні, затрымкі заробкаў.

**Аўстрыя.** Авіяцыйная кампанія Austrian Airlines спыніла супрацоўніцтва з расійскай спявачкай А. Нятрэбка за перадачу грошай баевікам з "ДНР", хаця гэта артыстка была тварам кампаніі.

**Індыя.** Карэйская кампанія Samsung пачала тут першыя ў свеце продажы навейшых смартфонаў з 4-х дзюймовым працэсарам і аб'ёмам памяці 64 Гбайт, 2-мя камерамі.

**Расія.** На радыё "Эхо Москвы" вядомы публіцыст А. Троіцкі заявіў, што подлыя, добра праплачаныя тэлеканалы з асаблівым цынізмам згвалцілі мазгі дзясяткам мільёнаў расіян.

**Англія.** Даследванні вучоных Манчэстэрскага ўніверсітэта даказалі, што выпраменьванні мабільных тэлефонаў бясшкодныя для здароўя людзей, але лепей па іх доўга не размаўляць.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Зніжэнне цэн на нафту на 1 долар, як заявіў міністр эканомікі М. Снапкоў, і для Беларусі нясе зніжэнне валютнай выручкі на 20 млн. USD ад гандлю яе прадуктамі.

**Барысаў.** Урад Беларусі плануе, як заявіў віцэ-прэм'ер А. Тозік, заканадаўча зрабіць больш жорсткай адказнасць бацькоў за дрэннае і халатнае выхаванне дзяцей.

**Мінск.** З пачатку года адмоўнае сальда знешняга гандлю прадпрыемстваў сталіцы дасягнула амаль 7 мільярдаў долараў, па Беларусі ў цэлым крыху лепш – 2,5 млрд. долараў.

**Ашмяны**. Не паспелі даць дазвол Калінкавіцкаму мясакамбінату на пастаўкі зноў прадукцыі на расійскі рынак, як Расія ўвяла такую забарону для мясцовага мясакамбіната.

**Мінск.** Урад М. Мясніковіча можа і не ўтрымацца да выбараў, як заявіў экс-кандыдат у прэзідэнты, эканаміст Я. Раманчук, а міністр не можа нават звольніць свайго намесніка.

**Маладзечна.** Нечакана для айчыннага алігарха Ю. Чыжа мясцовыя жыхары сталі супраць будаўніцтва двух буйных свінакомплексаў, а Расія забараніла ўвоз яго мясапрадуктаў.

**Гродна.** Следчыя ўстанавілі асобу пасярэдніка, які прысвоіў 2450 долараў хабару за выдачу ілжывай медыцынскай даведкі прызыўніку, каб "адкасіць" ад прызыву ў армію.

**Мінск.** Прэзідэнцкія выбары-2015, як падкрэсліў палітолаг Ю. Дракахруст, будуць вельмі няпростымі з-за падзення жыццёвага ўзроўню беларусаў, з'явіцца шмат незадаволеных.

**Ляхавічы.** Больш 180 чалавек прыйшлося МНС эвакуіраваць а шостай раніцы з інтэрната мясцовага аграрнага каледжа, калі загарэўся адзін з жылых блокаў на 2-м паверсе.

**Мінск.** Пасля выхаду з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе журналіст А. Алесін заявіў, што ні ў чым ён не вінаваты і не супрацоўнічаў з замежнымі спецслужбамі.

**Гродна.** На пункце пропуску "Прывалка" на беларуска-літоўскай граніцы запрацаваў пры падтрымцы ЕС сучасны "рэнтген" у ангары для праверкі аўто шляхам іх сканіравання.

**Барысаў.** У нерабочы час у вёсцы Жыцькава згарэла па невядомых прычынах прыватная піларама, агонь знішчыў некалькі станкоў у цэхах, бытоўкі, моцна пашкодзіў дах.

**Быхаў.** У суд раёна паступіла справа 45-гадовай супрацоўніцы банка, якая ўкрала ў сваіх 16 кліентаў пераважна пажылога ўзросту з лета 2005 года больш 1 млрд. рублёў.

**Салігорск.** Да навагодніх свят ААТ "Беларуськалій" вырашыў выдаць па 1 млн. рублёў матдапамогі і па каробцы цукерак усім работнікам, але ў РБ **зменшыліся такія бонусы.**

**Мінск.** Канадскі 61-гадовы спецыяліст Дэйв Льюіс узначаліў зборную Беларусі па хакеі, з футбольнай зборнай стаў працаваць былы яе моцны паўабаронца Аляксандр Хацкевіч.

## МУС: антынаркатычны дэкрэт уступіць у сілу з 1 студзеня 2015 года



■ БЕЛТА

**МУС Беларусі разлічвае, што антынаркатычны дэкрэт, які прадугледжвае шэраг зменяненняў па пытаннях процідзеяння абароту наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў, уступіць у сілу з 1 студзеня 2015 года. Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра ўнутраных спраў Валянцін Міхневіч, які сёння прымаў удзел у калегіі УУС Віцебскага аблвыканкама.**

«Думаю, на наступным тыдні дакумент будзе апублікаваны ў прэсе і 1 студзеня ўступіць у сілу. Тыя дадатковыя меры ў выглядзе прававога інструментара, які мы атрымаем, дазволяць больш эфектыўна змагацца з новымі відамі наркатычных і псіхатропных рэчываў, якія адзін за адным з'яўляюцца ў грамадстве. У іх структуры пераважаюць спайсы, дызайнерскія новыя наркотыкі (70%). Год таму мы пачалі змагацца з макам, ударылі па опіумнай наркаманіі. І цяпер мак у структуры наркаманіі займае 3-4%. Але яго замяняюць новыя, як іх называюць у гэтым асяроддзі, прагрэсіўныя наркотыкі. У барацьбе з імі патрэбны новыя метады», - падкрэсліў Валянцін Міхневіч.

Паводле яго слоў, МУС, а таксама судовыя органы і іншыя ініцыятары зменаў прапанавалі радыкальныя меры. Сярод іншых гэта адказнасць у дачыненні да распаўсюджвальнікаў у выпадку наступлення смерці ад ужывання наркотыкаў - да 25 гадоў пазбаўлення волі. «Гэта правільна, я лічу: той, хто зарабіў на жыцці іншага чалавека, павінен адказваць па ўсёй строгасці закона, нароўні з забойцамі. Прадугледжана шмат і іншых нормаў, напрыклад, стала больш жорсткай адказнасць за продаж наркотыкаў непаўналетнім. У гэтым годзе ў нас у лік зарэгістраваных наркаманаў стала трапляць больш хлопчыкаў і дзяўчынак ад 14 гадоў. Выяўлены факты распаўсюджвання, спажывання і нават передазіроўкі ў гэтым узросце. Вынесена 39 **адмоўленчых** матэрыялаў, паколькі падлеткі не дасягнулі ўзросту наступлення адказнасці. Але важней не дапусціць далейшага ўцягвання іх у спажыванне спайсаў, і паколькі кантынгент маладзеў, мы адрэагавалі на гэта прававой ініцыятывай», - растлумачыў Валянцін Міхневіч.

Асобныя меры накіраваны на аператыўнае рэагаванне на пастаянныя змены хімічнай структуры спайсаў, выкарыстанне розных каналаў паступлення наркотыкаў у краіну і яго распаўсюджвання. Дададзіся спосабы кантролю за паштовымі адпраўленнямі. Больш жорсткім стане пакаранне за выраб сінтэтычных псіхатропаў і наркотыкаў. У цэлым, па словах Валянціна Міхневіча, паралельна з новымі хітрыкамі злачынцаў удасканальваюцца і метады барацьбы з наркатрафікам і наркагандлем. За бягучы перыяд 2014 выяўлена ў паўтара разы больш злачынстваў у гэтай сферы да ўзроўню мінулага года, устаноўлена і спынена 36 каналаў паставак, ліквідавана 13 наркалабараторый. Гэта самыя высокія вынікі за апошнія гады.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Да 70-годдзя Перамогі над фашызмам толькі на аднаўленне 1239 воінскіх пахаванняў, помнікаў і абеліскаў на Віцебшчыне спатрэбіцца выдзеліць 8 мільярдаў рублёў.

**Дуброўна.** Хірург райбальніцы з 37-гадовым вопытам працы заявіў, што ў гісторыі з яго пацыентам дзіцём, якому пасля пераломy ампутавалі руку, быў унікальны выпадак.

**Падсвілле.** На мясцовым Плiскім ільнозаводзе адбыўся сход з нагоды пачатку разгляду Гаспадарчым судом вобласці пытання аб банкруцтве (санацыі) прадпрыемства.

**Ушачы.** Жыхары 4-х вёсак Сарочынскага сельсавета запатрабавалі ад улад закрыць мясцовы вялізны сметнік цвёрдых адыходаў і знішчыць баршчэўнік на плошчы 443 га.

**Полацк.** Для мясцовага пагранатрада каледж аховы граніц Латвіі на выдзелены ЕС грант у памеры 0,5 мільна еўра дапамог купіць і абучыць службовых сабак для застаў.

**Глыбокае.** Паблізу касцёла Дзевы Марыі ў вёсцы Удзела ўрачыста з удзелам біскупа А. Буткевіча адкрылі і асвяцілі другі на Віцебшчыне помнік ненароджаным дзецям.

**Верхнядзвінск.** Раніцай у вёсцы Юзэфава з-за пакінутай без нагляду запаленай ля труны свечкі ў дзень пахарон адбыўся пажар і ў агні згарэў нябожчык, сужыцель гаспадыні.

**Орша.** Расійская паліцыя затрымала на здымнай кватэры ў Смаленску жыхара горада, які пасварыўся і забіў 38-гадовага аршанца-будаўніка, яго труп потым вывез і закапаў.

**Віцебск.** Беларуская журналістка А. Мядзвецкая высветліла, што ў прыгранічным горадзе Невель Пскоўскай вобласці ў магазінах расійскія мясапрадукты выцеснілі беларускія.

**Расоны.** У вёсцы Клясціцы раённы цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва адкрыў свой філіял для падтрымкі і дапамогі пажылых і інвалідаў з аддаленых вёсак раёна.

**Шуміліна.** Позна вечарам ля вёскі Язвіна на дарозе невядомы вадзіцель збіў насмерць 23-гадовага хлопца і знік з месца ДТЗ, тут рэгулярна адбываюцца падобныя трагедыі.

**Мёры.** Забаўляльны вечар адпачынку мясцовага РДК прызналі лепшым у вобласці на конкурсе на лепшае тэматычнае мерапрыемства ў катэгорыі "Для тых, каму за …"

**Браслаў.** Днём на возеры Струста праваліўся пад лёд і загінуў 55-гадовы рыбак, жыхар аднайменнай вёскі, з-за цёплага надвор'я і малых маразоў таўшчыня ледзянога покрыва зменшылася да 6 см.

**Віцебск.** Каб запоўніць сваю гасцініцу "Ветразь" на зімовыя святы, ЧУП "Віцебсктурыст" на 25 % знізіў кошт навагодніх тураў для жыхароў Расіі, шмат каму з іх стала не да паездак.

**Паставы.** Замест знакамітага Зюзі Паазерскага, закрыўшага сваю казачную сядзібу ў Азёрках, гасцей да старога Новага года стаў прымаць на аграсядзібе "Ліпнікі" Скарбнік.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Шлях даўжынёй у 20 гадоў

## *Напярэдадні новага 1995 года выйшаў першы нумар “Вольнага Глыбокага”*



**Так! Газеце “Вольнае Глыбокае” – 20 гадоў! Хто б тады, напярэдадні Новага года, на Каляды, у снежні 1994 года, мог падумаць, што гэта – толькі пачатак, а гісторыя расцягнецца на 20 гадоў і выйдзе 768 нумароў.**

Адпачатку не было сур’ёзных намераў… Меркавалася ўсяго 3-5 нумароў. Тады ў Глыбокім, як і на ўсёй Беларусі была высокая грамадска-палітычная актыўнасць. У 1991 годзе Беларусь стала незалежнай краінай, а ў 1994-м – выбары першага Прэзідэнта незалежнай краіны.

Вяршыняй жа гэтай грамадска-палітычнай актыўнасці ў горадзе магла быць менавіта газета. Тады, на Беларусі, існавала бадай ці не 1000 газетаў, іх выдавалі ледзьве не на кожным хутары.

– *Давайце выдаваць сваю газету!*– прапанаваў аўтар гэтых радкоў.

– Ай, навошта! Дзе мы грошы знойдзем? Хто яе рабіць і пісаць для яе будзе? – пярэчылі апаненты.

Так заўсёды ёсць – ініцыятыва каральная! Сам пакажы прыклад! Прапанова выдаваць газету зацікавіла толькі Алу Галай і Івана Храпавіцкага, настаўніка Глыбоцкай СШ№3. Утрох і рабілі першы нумар. А як звярстаць? Камп’ютара ж няма! Напісаныя матэрыялы і макет паклалі ў канверт і адправілі ў Віцебск тамтэйшаму грамадскаму актывісту Барысу Хамайдзе, які на тым часе ўжо выдаваў цікавую газету “Выбар”. Барыс Хамайда, як бы так мовіць, і стаўся хросным бацькам “Вольнага Глыбокага”, ахвяраваў сродкі на друк, звярстаў і выдрукаваў першы нумар газеты ў Віцебскай абласной друкарні, як раз напярэдадні новага 1995 года

На другі нумар ахвяраваўся глыбоцкі прадпрымальнік Іван Кучыц, на трэці нумар скінуліся самі – г.зн. ён выйшаў шляхам сяброўскіх унёскаў. Яшчэ на пару нумароў ахвяраваўся наш зямляк з Канады пісьменнік Кастусь Акула.

Газета выходзіла не рэгулярна, 2-3 нумары на год, яе выхад, звычайна, быў прымеркаваны да нейкай важнай падзеі, напрыклад, выбары ў парламент ці ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі.

У прынцыпе, на гэтым і магла скончыцца гісторыя “Вольнага Глыбокага”, як скончылася гісторыя не адной сотні газет, што ўзніклі ў пачатку 1990-х…

І тут пачынаецца самае пікантнае… Гэта ў Латвіі, дзе я адпрацаваў 15 гадоў майстрам, прарабам і начальнікам участка, успрымалася абсалютна нармальным, калі ў мясцовай газеце “Вентас Балсс” з’яўляліся мае нататкі. Прыходзіш на працу, а табе галоўны інжынер – латыш – паціскае руку: “Маладзец, добра напісаў!”Добразычліва адносіліся калегі па працы і падначаленыя.

Але ж, краязнаўчыя матэрыялы дасылаў аўтар гэтых радкоў і ў “Веснік Глыбоччыны”…

Пераехаў на радзіму ў 1993-м. Пайшоў шукаць працу па спецыяльнасці, чытаючы абвесткі ў раёнцы.

– *Так, нам патрэбны майстар,*– кажа супрацоўніца аддзелу кадраў аднаго з прадпрыемстваў, гартаючы працоўную кніжку,– *ды й дасье ў вас добрае: майстр, прараб, начальнік участка. – Тое, што нам трэба! – Скрабатун – гэта можа той, што піша для раёнкі?*– пытае нарэшце аддзел кадраў.

– Так.

– *Чыталі. Добра, мы вам патэлефануем, пачакайце.*

Ніхто, натуральна, не тэлефанаваў! Ужо тады ў мяне склалася меркаванне, што такія “разумныя” нікому і нідзе не патрэбныя, нават у якасці грузчыка ці дворніка. Праўда, пару разоў, на працу кароткатэрмінова мяне, усё ж, узялі. На тры месяцы, напрыклад, уладкаваўся ў ПМК-49, пачаў будаваць глыбоцкі чыгуначны вакзал. Праз тры месяцы, як раз, і скончылася фінансаванне будоўлі, рабочых – у водпуск з лютага па травень, майстру – працоўную кніжку ў рукі.

Выбару, рэальна, – ніякага! Акрамя аднаго – стаць прадпрымальнікам! І тое, што тады здавалася беспрэспектыўным – выданне газеты – сталася ў выніку прафесіяй.

Наогул, падобны выпадак – не ўнікальны. Выдаўцамі газетаў не заўсёды з’яўляюцца журналісты па адукацыі. Выдавец той, хто вядзе фінансава-гаспадарчую дзейнасць, плаціць заробкі супрацоўнікам і падаткі дзяржаве. Можа быць і слесар, і інжынер, і філолаг, калі змог арганізаваць выдавецкую фірму. Сама ж газета – плён працы сотняў творчых людзей: журналістаў, філолагаў, медыкаў, інжынераў…

Напрыклад, у 2001 годзе, мяне вельмі здзівіла, што газета, якая выдаецца ў невялікім, як Глыбокае, горадзе Німбургу (каля Прагі) накладам 20 тысяч паасобнікаў не мае ў сваім штаце ніводнага журналіста.

– Чаму?– пытаю ў рэдактара.

– *Маладыя журналісты, якія скончылі журфак у Празе, не жадаюць ехаць у невялікі правінцыйны гарадок ды “гарбецъ” на газетай. Ім падавай тэлебачанне, замежныя камандыроўкі… У нас тут – філолагі, гісторыкі, інжынеры, нават з 10-класнай адукацыяй, але ўмеюць добра пісаць. Журналістаў няма!*

Абсалютна ідэнтычны выпадак сустрэў і ў польскай газеце, якая выходзіць у Алаве (каля Уроцлава).

Спачатку “Вольнае Глыбокае” набірала абароты: рэгулярна – 1 выхад у месяц, потым рэгулярна 2 выхады ў месяц. З верасня 2001 года – паўнавартасная тыднёвая газета на 16 палосах, з тэлепраграмай, абвесткамі, рэкламай, навінамі з рэгіёну.

Калі браць любы ці сённяшні нумар “Вольнага Глыбокага”, то гэта – плён працы ці не сотні людзей: нашых сталых аўтараў, у тым ліку і нашых чытачоў, якія дасылаюць свае матэрыялы, рэкламадаўцаў, што падаюць сваю рэкламу, а таксама жыхароў нашага краю, якія змяшчаюць прыватныя абвесткі, журналістаў БелаПАНа і БелТА. Апошнія дасылаюць нам і ТБ-праграму.

Не буду ацэньваць 20-гадовы ўнёсак “Вольнага Глыбокага” у жыццё нашага рэгіёна, бо гэта будзе не вельмі сціпла. Такія высновы мусяць зрабіць нашыя чытачы. Спынюся на некалькіх аспектах, якія ляжаць на відавоку, якія неаспрэчныя.

**Першае.** На працягу існавання выдання ў ім апублікавана не адна сотня арыгінальных гісторыка-краязнаўчых матэрыялаў. Падкрэсліваю – арыгінальных! Гэта значыць, што яны не перапісаныя з кніг і газет – і нідзе, ніколі, і нікім не публікаваліся, напісаныя для “Вольгага Глыбокага” адмыслова, газета “Вольнае Глыбокае” з’яўляецца іх першакрыніцай.

Давайце згадаем гэтых аўтараў! Людміла Ардынская! Надзея Храпавіцкая! Кліменцій Кожан! Дзяніс Філіпчык! Ада Райчонак! Фадзей Шымуковіч! Кастусь Шыталь! Зміцер Лупач! Аляксандр Івашчонак!

Аляксандр Івашчонак, манах, архівіст, гісторык напісаў цэлую серыю матэрыялаў па тэме “Мястэчка Глыбокае”. Мала хто падазраваў, што ў нашага Глыбокага – такая багатая гісторыя!

**Другое.** Газета так ці інакш паўплывала на стварэнне грамадзянскай супольнасці ў нашым рэгіёне. Гэта значыць, вакол газеты існуе пэўная нефармальная група людзей, якую звязваюць агульныя інтарэсы. Вырашылі, напрыклад, арганізаваць экспедыцыю ў горад Себеж (Пскоўская вобл.) па мясцінах роду Корсакаў – арганізавалі.

Прэзентацыя ў Глыбокім новага фільма БелСАТ? Калі ласка! Збяромся! Гісторык хоча прэзентаваць сваю кнігу – не пытанне! Будзе прэзентацыя!

**Трэцяе.** Усё прадаецца і ўсё купляецца! Аднойчы журналіст БелаПАНа Генадзь Шарыпкін, які браў інтэрв’ю ў аўтара гэтых радкоў, выказаўся: “У Мінску ёсць меркаванне, калі хочаш ведаць пра ўсё Глыбокае, купі “Вольнае Глыбокае”!”

Не хачу сцвярджаць, што “Вольнае Глыбокае” раскруціла бізнэс горада Глыбокае, але шмат у гэтым дапамагла – адназначна! У нас досыць прадстаўнічая рэклама з розных гарадоў краіны, гэтак як прыватных абвестак. Шукаеш працу? Знойдзеш! Куды падзець кацянят? Аддай у добрыя рукі! Здыму жыллё – здымай!

**Чацвёртае.** Наўрад ці любая газета ў свеце зможа вырашыць спрэчку паміж двума суседзямі. У кожнага – свая праўда! На тое ёсць суд. А вось праблему чалавекдзяржава – наша газета вырашала і не аднойчы.

У Азерцах (2004 г.), напрыклад, пяць гадоў запар бруіў вадаправод. На вуліцах лужыны, у кватэрах сцены пакрыліся цвіллю, згнілі падлогі, пад імі – вада, у падвалах – вада. Хвараюць дарослыя і дзеці. І ніхто не дае рады! Хто мусіць рамантаваць вадаправод? Саўгас ківае на ЖКГ, ЖКГ – на саўгас. Пасля нашай публікацыі 5-гадовае пытанне вырашылася цягам рабочага дня: прыехаў экскаватар і рабочыя… Больш не бруіла! Было ў Азерцах хіба што 15 падпісчыкаў, сталася – 132!

Шкада, няма сярод нас Яўгена Самсонава, нашага пазаштатнага аўтара. Вельмі адчувальная страта! Яўген напісаў некалькі рэзанансных матэрыялаў, напрыклад, пра перманентныя праблемы з водазабеспячэннем вёскі Кішы. Ён апублікаваў самы лепшы матэрыял у сваім жыцці – “Як узрывалі глушылку”. Стаў пераможцам у журналісцкім конкурсе імя Веранікі Чаркасавай.

**Пятае**. “Вольнае Глыбокае” імкнецца трымаць сваіх чытачоў у фарватары апошніх падзеяў. Іншае справа – не так лёгка гэта зрабіць аператыўна, бо цягам тыдня навіны старэюць, а газета выйдзе толькі праз тыдзень. Між тым самыя важныя падзеі нашага краю заўсёды адлюстраваныя ў нашым выданні. Не мала важна і тое, што ў газеце прысутнічае інфармацыя ад розных ведамстваў. Сярод аўтараў такіх матэрыялаў самым чытаемым з’яўляецца, без сумневу, Аляксей Віктаравіч Протас, начальнік міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага раслiннага свету. Яго артыкулы часам чытаюцца як дэтэктыўныя раман.

*“У часы Вялікага Княства Літоўскага вельмі строга каралі браканьераў: першы раз – секлі пугай, другі – адразалі вуха, трэці – каралі смерцю!”* І якую выснову робіць аўтар? Калі б сёння мы жылі ў часы ВКЛ, то ледзьве не палова глыбоцкіх браканьераў хадзіла б цяпер без аднаго вуха! Супер! Варта парушальнікам Правілаў рыбалоўства задумацца.

Цяпер наша краіна і ўсе мы перажываем не самы лёгкі перыяд. Зацяжны эканамічны крызіс, які на агульным фоне яшчэ больш пагоршыўся ў сувязі з падзеямі на Украіне, наўпрост уплывае на заробкі нашага насельніцтва. Сумнеўна, што вяскоўцы, маючы сярэдні заробак у 1,5 мільёна рублёў, які выплачваюць дазіравана, часткамі, па 500 тысяч у месяц, адшкадуюць 5 тысяч рублёў на набыццё газеты. Нават той, хто і хацеў бы набываць газету праз рэдакцыйную падпіску – страціў такую магчымасць, бо па ўсёй краіне масава зачыняюцца сельскія паштовыя аддзяленні. І надыходзячы 2015 год не абяцае быць лёгкім і бестурботным. 2015-ы – год самых галоўных выбараў у краіне! Крый, Божа, нас ад катаклізмаў!

Жадаю моцы, цярпення нашым чытачам, жыхарам нашага горада, усяго паўночнага захаду Беларусі, дзе чытаюць “Вольнае Глыбокае”! Шчасця, здароўя, дабрабыту!

З Новым 2015 годам!



# З Божым нараджэннем!

**Шаноўныя Суайчыннікі,**
**дарагія Браты і Сёстры ў Хрысце!**

Божае Нараджэнне – гэта свята, якое нясе з сабой цеплыню і спакой, так знаёмыя і блізкія сэрцу кожнага чалавека. Цяжка ўявіць сабе нашу гісторыю і культуру без гэтага Свята. І справа не толькі ў прыгожых абрадах, якія яму спадарожнічаюць. Святло Бэтлеемскай зоркі, якое калісьці апраменіла адну са шматлікіх тагачасных стаенак, і сёння хоча данесці нам тую самую Навіну. Бог не пакінуў свой народ, Ён прыйшоў, каб застацца і быць “Богам-з-намі”. А гэта сапраўды ўжо шмат: ведаць, што ты ніколі не застанешся адзін, што жыццё тваё заўсёды мае сэнс, што пакінуты, хворы ці састарэлы – ты Камусьці патрэбны. І што твае праблемы – гэта ўжо не твае, а Таго, Хто прыйшоў, каб аддаць за цябе сваё жыццё. Трэба толькі ў гэта паверыць. І калі знойдзецца Божаму Слову месца ў сэрцы чалавека, як калісьці ў Бэтлеемскай стаенцы, тады будуць у нас трывалыя сем’і, цвярозыя бацькі, сумленныя кіраўнікі, самаадданыя настаўнікі, адказныя ўрачы, а ў свеце не будзе больш войнаў і голаду.

Жадаю, каб мы сапраўды паверылі, што і сёння Бэтлеемская зорка свеціць над кожным з нас, як над той адзінай стайняй, у якой так моцна жадаў нарадзіцца Божы Сын.

+Алег Буткевіч,
біскуп Віцебскі



# У Глыбокім распачаўся новы грыбны сезон – “Снежань – 2014”?



Глыбокае, 19 снежня 2014 г… Зранку было пахмурна, змрочна і сумна на душы, але на тэрмометры – + 5,5 С$^0$. Паводле прагнозу, у сярэдзіне дня мусіла быць – + 8 С$^0$. Пайшоў спраўдзіць. От, халера, сапраўды – +8 С$^0$. А тут – развіднела, высунулася сонейка. І ў аўтара гэтых радкоў скончылася “дэпрэсія”, з’явіўся аптымізм. Самы раз прайсціся з фотаапаратам па Глыбокім, пераднавагоднім… На возеры Кагальным, што ў цэнтры горада, – ніводнага рыбака! Берагі адтаялі, лёд усплыў, не ўзысці…

І тут, бачу, найпрост, ля возера, на набярэжнай, дзе присады з вярбы ніцай, пень з апенькамі! Неверагодна! Праз колькі крокаў – яшчэ дрэва, на ствале – апенькі! Наўпрост ля пешаходнага маста праз Беразвіцу, дзе маладзёны замацоўваюць сваё каханне і шлюб замкамі.

Не! Гэта – не звычныя ўсім грыбнікам летнія апенькі, альбо восеньскія. Тут іншы від – апенькі зімнія. Як раз такія, якія мы бачым у імпартаваных фігурных слоіках, што можна купіць у любым беларускім супермаркеце. Такія жоўта-карычневыя грыбочкі. Цяпер, як раз, на іх – сезон!

Фоткаю…

– А вы прайдзіце далей!– кажа кабета, што кідае хлебны мякіш у рэчку, каб падкарміць качак. – Там – усё дрэва ў грыбах!

Праўшоў крокаў пяць… Так! Але гэта ўжо не зімнія апенькі, а вешанка. Таксама ядомы грыб.



Па праўдзе кажучы, вяртанне грыбнога сезону ў снежні на Беларусі – зусім не ўнікальны выпадак. Памятаю, у годзе, мо’ 1997-м, снежань месяц, перад Новым годам, ехалі мы з Мінска ў Глыбокае… Ад Лагойска да Бягомля – людзі пры дарозе з вёдрамі грыбоў стаяць. Спыніліся ў Бягомлі.

– Што за грыбы такія?– пытаем.

– Падзялёнкі!

– Не атруцімся?

– Ды, вы што, гэта ж – самыя смачныя грыбы!

Узялі пяцілітровае вядзерца… Дома пасмажылі. Так, смачныя грыбы!

А калі глядзець глыбей? Я вось памятаю – сярэдзіна 1960-х гадоў – студзень. За вакном – зялёная трава! У які клас хадзіў? Мо’, у 5-ы. Толькі што бацька тэлевізар купіў. А ў тэлевізары – людзі з поўнымі кошыкамі зялёнак!

Гайда ў студзені 2015 года за зялёнкамі ў Галубіцкую пушчу!

PS: Ніфіга сабе! Скончыў пісаць – +9 на тэрмометры!

# Не парушайце заканадаўства!

**Вось і заканчваецца 2014 год, які прынёс шмат радасці, засмучэнняў і клопатаў, спадзяёмся, што ўсе клопаты былі толькі прыемнымі.**

■ **А.В. Протас**, *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Супрацоўнікам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі можна падвесці папярэднія вынікі працы, аднак, праца па захаванні прыродных багаццяў нашай дзяржавы будзе працягвацца штодня і кругласутачна. Вельмі хочацца верыць, што праца міжраённай інспекцыі ў адыходзячым годзе была не марнай і прынесла карысць грамадзянам, нам удалося захаваць прыгажосць прыроды, колькасць дзікіх жывёл, чысціню нашых лясоў і азёр.

У адыходзячым годзе супрацоўнікі міжраённай інспекцыі не толькі арганізоўвалі сваю працу па спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, выяўлялі рыбных, лясных і паляўнічых браканьераў, але шмат увагі надавалі прававому выхаванню нашых грамадзян. Толькі ў розных сродках масавай інфармацыі размешчана больш за 120 артыкулаў і нататак, са школьнікамі раёна праведзены адкрытыя ўрокі па прыродаахоўнай тэматыцы, праводзіліся выступы ў працоўных калектывах. Калектыў міжраённай інспекцыі ўдзельнічаў у розных акцыях, якія праводзіліся ў раёне, суботніках па ўборцы берагавых ліній вадаёмаў раёна.

17 снежня 2014 года супрацоўнікі міжраённай інспекцыі прынялі ўдзел у акцыі «Нашы дзеці», у ходзе якой набытыя і перададзеныя ў ДУА «Сацыяльна-педагагічны цэнтр Глыбоцкага раёна» мыйныя, гаспадарчыя і канцылярскія прыналежнасці на суму 1500000 рублёў.

На тэрыторыі раёна арганізаваныя ёлачныя кірмашы, заклікаем усіх грамадзян не парушаць прыродаахоўнае заканадаўства і законна набываць навагодніх прыгажунь на ёлачных базарах.

Напярэдадні надыходзячых навагодніх святаў калектыў міжраённай інспекцыі хоча павіншаваць усіх жыхароў раёна з надыходзячымі Калядамі і Новым годам, пажадаць усім нам быць дабрэй, любіць і захоўваць прыгажосць нашага краю.

**Аб парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі, кругласутачна: 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 645-66-78.**

# У Глыбокім выратавалі рыбака, які тануў

**Дзякуючы аператыўнасці ратавальнікаў застаўся жывы рыбак, які 22 снежня праваліўся пад лёд на возеры Кагальным у Глыбокім.**

38-гадовы мужчына знаходзіўся ў палонцы на паверхні вады на адлегласці каля 20 метраў ад берага. Супрацоўнікі МНС вынялі яго з возера і перадалі медыкам. З дыягназам «агульнае пераахаладжэнне» ён шпіталізаваны.

Высветлілася, раніцай мужчына адправіўся на возера для падлёдной лоўлі рыбы, а вечарам, вяртаючыся дадому, праваліўся ў палонку, паведамляе МНС.

МНС яшчэ раз звяртае ўвагу аматараў зімовай рыбалкі: па-сапраўднаму моцных маразоў яшчэ не было і лёд на вадаёмах вельмі тонкі - 3-5 см. Выходзіць на лёд можна пры ўмове, што яго таўшчыня дасягнула не менш за 10 см, а лепш за ўсё пачакаць, пакуль яна дасягне 20 см.

*tut.by*




*Юрыя Валянцінавіча Марыновіча!*

**Віншуем з юбілеем!**

Сегодня папу с Днем рожденья
Пришла поздравить вся семья,
Желают счастья, без сомненья,
Ему коллеги и друзья.
Живет наш папа без оглядки
И не приносит людям зла,
Всегда у папы все в порядке,
И хорошо идут дела.
Мы с детства в нем души не чаем.
По жизни им проложен путь,
Наш папа любит гренки с чаем,
Ну, а вино совсем чуть-чуть.
Пусть наш совет совсем не новый,
Но все ж исполни наш совет:
Будь, папа, крепким и здоровым,
Будь с нами вместе до ста лет!

*Ад дачкі і сына*

*Раісу і Маргарыту Дранковіч*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Подружка, миленькая наша!
Пусть год от года всё мы старше,
Но и богаче без сомнения.
Пусть годы чередой летят...
В душе пусть будет только 20!
Пусть не угаснет тот заряд,
Когда умели отрываться.
Здоровье пусть не подведёт,
С любимым мужем будь всегда ты рядом.
А Маргаритка, пусть здоровенькой растет -
И большего желать не надо.

*Ад сям'і Янковіч*

*Андрэя Мышкоўскага!*

**Віншую з Днём нараджэння!**

Мальчик мой, любимый крестник,
За тебя молюсь я Богу,
Чтобы умным был, счастливым,
Выбрал светлую дорогу!
Чтобы чтил родных и близких,
Жил по заповедям Божьим,
Замечательно трудился,
Был здоровым и хорошим!

*Ад хроснай*

# Як абараніць і захаваць сваю маёмасць?

**Напэўна, калі вы чуеце пра кватэрныя крадзяжы, вы сур'ёзна суперажываеце ахвяры і баіцеся нават уявіць сітуацыю, што гэта магло здарыцца з вамі. Можа быць, вы лічыце, што крадзеж з кватэры - гэта нейкая выпадковасць, злы рок, збег абставінаў. Вы не зусім маеце рацыю. У крадзяжы з кватэры вінаватыя перш за ўсё самі яе гаспадары.**

■ **Л. Міхалоўская,** *спецыяліст групы сродкаў і сістэм аховы*

Як абараніць сваю маёмасць, якія меры засцярогі выконваць, каб шанцы таго, што вы станеце ахвярай крадзяжу, былі зведзены да нуля? Можа быць, Вы ўсталявалі моцныя і надзейныя дзверы, усталявалі краты на вокны і балкон і нават папрасілі суседзяў прыглядаць за вашай кватэрай і вымаць пошту з вашай скрыні. Думаеце, дапаможа?

Трэба прызнаць, што дадзеныя меры не вельмі дзейсныя, калі зламыснікі ўжо выбралі менавіта Ваша жыллё для пранікнення ў яго. У выпадку крадзяжу, Вам прыйдзецца заплаціць занадта дарагую цану за сваю бестурботнасць. Многія адкрылі для сябе больш надзейны спосаб аховы свайго жылля. Усталюйце сігналізацыю.

Тут ужо не толькі вы несяце адказнасць за сваю маёмасць, але і аддзел аховы, з якім вы складзеце дамову. Вядома, на ўстаноўку абсталявання і абаненцкае абслугоўванне прыйдзецца раскашэліцца, але ваш спакой таго варты.

Сябруйце з суседзямі! Па міліцэйскай статыстыцы больш за 70% кватэрных крадзяжоў раскрываюцца «па гарачых слядах» дзякуючы пільным суседзям пацярпелых. Таму, калі з'язджаеце, скажам, у адпачынак або камандзіроўку, дамоўцеся з суседзямі, каб яны прыглядалі за вашай кватэрай і рэгулярна спаражнялі ваш паштовую скрыню. Забіты рэкламнымі буклетамі і бясплатнымі газетамі, ён падказвае дамушнікам, што гаспадары адсутнічаюць.

Не афішуйце свае даходы і строга забараніце дзецям распавядаць ў двары аб вашых новых пакупках або паездках на адпачынак. Абкрасці жыллё злодзеі могуць у любы момант: і калі гаспадары на працы, у гасцях або на дачы, і калі з'ехалі ў адпачынак. Ахвяры потым доўга даймаюць сябе і адзін аднаго папрокамі ў тым, што дрэнна схавалі грошы, ўпрыгажэнні, апаратуру або іншыя каштоўнасці. Маўляў, была б схованку больш надзейная, ніколі б не знайшлі. Але ці магчыма сканструяваць ў кватэры такое ідэальнае сховішча? І дзе аддаюць перавагу нашы грамадзяне хаваць тое, што нажыта непасільнай працай?

Некаторыя раяць захоўваць грашовыя сродкі і каштоўнасці ў схованках і сейфах, іншыя - ставіць сучасныя металічныя дзверы з некалькімі замкамі, усталёўваць краты на вокны, трэція - заводзяць сабаку. Між тым практыка даўно даказала, што самым танным і самым эфектыўным спосабам абароны маёмасці з'яўляецца пультовая ахова.

Ахова кватэр - унікальная паслуга аддзела аховы, якую можна ахарактарызаваць, перафразаваўшы вядомае выказванне: «Нішто не шануецца так дорага і не каштуе так танна, як ахова вашай кватэры». Сапраўды, месяц аховы кватэры, індывідуальнага катэджа ці гаража каштуе ўсяго 50 000 рублёў. Як і аб'екты, кватэры ахоўваюцца двума спосабамі: з дапамогай ахоўнай сігналізацыі (пультовая ахова) або кнопкай экстраннага выкліку (трывожная сігналізацыя). Калі злодзей спрабуе трапіць у дом, сігнал трывогі перадаецца на цэнтралізаваны пульт назірання, узброены нарад прыбывае на месца здарэння ў працягу трох-пяці хвілін.

Пультавая сістэма дазваляе адсочваць і дакументаваць усе перамяшчэнні з кватэры або ў кватэру. У любым месцы кватэры могуць усталёўвацца і кнопкі трывожнай сігналізацыі, якія дазваляюць хутка выклікаць міліцыю ў выпадку нападу на кватэру, калі гаспадар знаходзіцца ўнутры. Прычым абодва спосабы аховы можна камбінаваць. Хочаце паставіць кватэру пад ахову? Прыходзьце ў аддзел аховы, пішыце заяву. Таксама тут вам адкажуць на ўсе пытанні, якія вас цікавяць, параяць найбольш эфектыўную і даступную сістэму сігналізацыі. Падпісваеце дамову – і ваш дом стане сапраўдай крэпасцю з надзейнымі абаронцамі.

## Заўсёды на варце!

**Пад нашай аховай і кантролем знаходзяцца больш за пяцьсот аб'ектаў уласнасці.**

■ **С.М. Кандзерскі,** *начальнік Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь*

За мінулы перыяд 2014 года супрацоўнікамі ўзвода міліцыі аддзела раскрыта 21 злачынства.

Затрымана 16 вадзіцеляў, якія знаходзіліся за рулём у стане алкагольнага ап'янення. Па 2 фактах узбуджана крымінальная справа.

Аднак асноўны напрамак нашай дзейнасці - гэта захаванасць матэрыяльных каштоўнасцяў на аб'ектах, якія знаходзяцца пад нашай аховай.

Таксама з пачатку года выяўлена парушэнне антыалкагольнага заканадаўства: канфіскавана 550 літраў спіртазмяшчальнай вадкасці. Нарадамі аддзела аховы затрымана і дастаўлена ў Глыбоцкі РАУС 516 чалавек, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, а таксама затрыманы 51 чалавек, якія ўчынілі дробныя крадзяжы.

## Што такое тэхнічны маніторынг?

**Тэхнічны маніторынг – гэта ажыццяўленне кантролю шляхам устаноўкі прылад кантролю персаналу.**

■ **В.Л. Белы,** *старшы інспектар ліцэнзійна-кантрольнай групы Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь*

Прылада кантролю персаналу (далей - ПКП) прызначана для забеспячэння своечасовай адзнакі персаналу паста аховы (вартаўнікоў, ахоўнікаў, кантралёраў КПП) у зададзеныя інтэрвалы часу ў адпаведнасці з распрацаванымі графікамі аб знаходжанні яго на пасту. ПКП у інтэрвалы часу, вызначаныя запраграмаваным графікам, чакае адзнакі ключом доступа. У выпадку своечасовай адзнакі, ПКП чакае наступны інтэрвал кантролю. У выпадку несвоечасовай адзнакі за 5 хвілін да заканчэння ўключаецца гукавы сігнал, а па заканчэнні сігнал трывогі паступае на пульт цэнтралізаванага назірання падраздзялення аховы. На месца прыбывае нарад групы затрымання аддзела аховы для высвятлення прычын несвоечасовай адзнакі. Кантроль за працай ведамаснай аховы пры дапамозе тэхнічнага маніторынгу з'яўляецца дзейсным з мэтай выканання ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоў ажыццяўлення ахоўнай дзейнасці, устаноўленых п.7 абз.382.3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.09.2010г. №450 «Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці», бо вартаўнік павінен штогадзіны прыкладаць УД да ШУ, а ў выпадку фізічнага маніторынгу кантроль можа заключацца праверкай максімальна раз за змену.

# Скупы плаціць двойчы

**«Скупы плаціць двойчы»: гэту ісціну вельмі добра разумеюць кіраўнікі, якія праігнаравалі ў свой час прадпісанні органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду.**

Чамусьці многія з іх пачынаюць выпраўляць названыя недахопы толькі пасля таго, як тварам да твару сутыкнуцца з вогненнай небяспекай… Таму візіт інспектара не павінен успрымацца ў штыкі. Няўжо нельга атрымаць урок ад чужых памылак і паклапаціцца пра бяспеку ўжо зараз?

Інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС у снежні месяцы 2014 года праведзеныя кантрольныя праверкі СГФ «Стрынадкі» КУПП «Полацкі вінаробны завод» (дырэктар Стэфановіч В.В.), ДУА «Сярэдняя школа №2 г. Глыбокае» (дырэктар Кандрацьева Ж.А.), ААТ «Купцоў» (дырэктар Навумава Л. П.), якія паказалі, што кіраўніцтвам суб'ектаў раней атрыманыя прадпісанні выконваюцца, але не ў поўным аб'ёме:

■ па выніках кантрольнай праверкі **СГФ «Стрынадкі» КУПП «Полацкі вінаробны завод»** выяўлена, што прадпісанне органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду выканана на 27%;

■ па выніках кантрольнай праверкі **ДУА «Сярэдняя школа №2 г. Глыбокае»** выяўлена, што прадпісанне органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду выканана практычна ў поўным аб'ёме;

■ па выніках кантрольнай праверкі **ААТ «Купцоў»** выяўлена, што прадпісанне органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду выканана на 50%.

За невыкананне пунктаў прадпісання органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду кіраўнікі дадзеных суб'ектаў прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

*Інспекцыя надзора і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС*

## МНС інфармуе

**на 23.12.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1034;
Гібель людзей – 111, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 32;
Гібель людзей – 3, з іх дзяцей няма;
Урон –788.87 млн. руб.

